№ 1. Вільня, 29 сьнежня 1919 г. Нумэр 5 к.

# ВЕСЬЦІ ЧАСОВАГО УРАДУ

**выходзіць у 4 мовах: літоўскай, беларускай, польскай і жыдоўскай.**

**Адрэс рэдакцыі: Вільня, Юрскі пр, 13 кв. 20.**

*Вільня 29 сьнежня 1918 года.*

На колькі першы Габінэт міністраў будуючагася Літоўскага гаспадарства ня мог як належыцца разьвіць свае працы, ня мог ухапіць біючага пульсу нашага жыцьця, ня змог здаволіць тых вымаганьняў, каторыя ставіла грамадзянства Літвы і важнасьць цяперашняга мамэнту, — шмат прычын гэтага ёсьць таксама і ў складзе самага Габінэту міністраў. Часьць нашага грамадзянства ня бачыла ў ім сваіх прадстаўнікаў і не магла высказаць належнае веры. Першы Габінэт міністраў ня мог вызваць таго энтузіязму працы, каторы ёсьць гэтак патрэбным ў цяперашнім часе. Толькі Урад рашучы, маючы поўнае даверые можа вызваліць з тае небаспэчнасьці, ў каторай ён цяпер ёсьць.

Окупацыйная ўлада, каторая чатыры гады нішчыла наш край, дзяржала яго ў жалезным кулаку, цяпер адыходзіць. Не дала яна нам як мае быць прыгатавацца да гэтае часіны, не дала магчымасьці зарганізаваць тае сілы, каторая патрапіла-б абараніць наш край ад разбойніцкіх бандаў, што зьдзекуюцца па ўсёй Літве, каторая магла-б абараніць межы Літоўскага Гаспадарства. Баёмся цяпер анархіі ўнутры і збройнага нападу чужынцоў. Робіцца небаспэчнаесьць, што ўсё дзяржаўнае багацьце будзе расхапана, чыгункі перастануць хадзіць, астачы нашых харчэй будуць вывезены і голад запануе ў нашым краі. У сьлед за адступаючай нямецкай арміяй ідуць чырвонагвардейцы маскоўцы, каторыя хочуць узноў паняволіць нашую Бацькаўшчыну, зрабіць яе часткай галоднай, залітай крывёй Расеі.

Помач проці большэвікоў прапануе Польшча. Есьць навет пашыраныя галасы, што Часовы Урад ахвотна згадзіўся на прысланьне ў Літву польскага войска.

Аднак на колькі мы зацікаўлены ў абароне граніц нашага гаспадарстна, на толькі павінны дбаць аб поўнай незалежнасьці Літвы. Дык часовы урад заявіў, што згодзіцца на прысланьне польскага войска толькі пад варункам прызнаньня незалежнасьці літоўскага гаспадарства з сталіцай у Вільні.

Чуючы ўсю велічыню небаспэчнасьці ўсе жывучыя ў ёй нацыянальнасьці, — соцыял-дэмакраты, соцыялісты народныя дэмакраты, хрысьціянская дэмакратыя, каторыя прад гэтым ня прымалі ўчасьця ў габінэце міністраў, цяпер сталі да працы над адбудовай незалежнага літоўскага гаспадарства. Мусім усьцерагчы край ад анархіі, абараніць граніцы Літвы і давесьці гаспадарства (дзяржаву) да Устаноўчага Сэйму. Беларусы і жыды ўвайшлі таксама ў склад Часовага Ураду, толькі паляки майначаць дагэтуль але край жджэ і верыць, што яны таксама споўняць грамадзянскія абавязкі.

26 сьнежня ўтварыўся новы габінэт міністраў, на прынцыпах коаліцыйных. У склад яго ўваходзяць соцыял-дэмакраты (п. п. Міхал Біржышка, Аўг. Янулайтіс, Язэп Пакніс) 2 соцыялісты народныя дэмакраты (Міхал Сьлежэвіч, Ян Вілейшыс) 2 хрысьціянскія дэмакраты (Вольд. Чарноцкі, Александэр Стульгінскі) саюзнай партыі (Пётра Леонас) прадстаўнік ад жыдоў (Якуб Выгодзкі) беларус соцыяліст (Язэп Варонко) адзін прадстаўнік паступовых нацыяналістаў (Язэп Тубеліс) і 3 безпартыйных (Міхал Велікіс, Ян Шымолюнас, Ян Шымкус).

Апрача вымененых у склад габінэту міністраў уваходзяць З. Старкус (хрысьціянскі дэмакрат) Сым. Розэнбаум і Рахман Рахмілевіч (прадст. жыдоў); прадст. партыі паступоўцаў міністры Марцін Ічас і Аўг. Вольдэмарас у складзе дэлегацыі заграніцай.

Часовы Урад апіраецца на шырокіх масах грамадзянства; ад яго таксама жджэ даверыя і паддзержкі і з гэтай мэтай склікае 16 студня агульна-краёвую Конфэрэнцыю, каб разам з прадстаўнікамі з усяе Літвы разглядзіць найважнейшыя пытаньні будучыны Літвы.

Часовы Урад мае надзею, што грамадзянства Літвы з усіх сіл паддзержыць яго працу, бо бяз гэтае паддзержкі ён ня будзе магчы несьці цяжару, каторы на яго ўзлажыла любасьць Бацькаўшчыны.

# Дэклярацыя Часовага Ураду.

Часовы Урад прыступае да працы пры цяжкіх абставінах. Свае задачы будзе мусіць правесьці ў жыцьцё ня ў добрых варунках жыцьцёвых, але ў краі згалелым з прычыны вайны, аслабленым окупацыйнай уладаю. У сваёй працы Урад будзе апірацца на працоўных клясах і мае надзею, што ўвесь край паможа яму ў яго стараньнях дзеля адбудовы незалежнае дэмакратычнае Літвы, у каторай усе нацыянальнасьці і ўсе групы грамадзянства будуць магчы разьвівацца ў найлепшых варунках.

Часовы Урад прызнае роўнасьць усіх нацыянальнасьцей. У дэмакратычнай Літве ня можа быць розьніцы праваў асобных нацыянальнасьцей. У склад Часовага Ураду ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх грамадзкіх груп Літвы, пачынаючы ад соцыял-дэмакраты і канчаючы хрысьціянскай дэмакратыяй. Часовы Урад мае ў сваім складзе прадстаўнікоў ад беларусаў і жыдоў няма толькі ад палякоў. Аднак спадзяёмся, што польская дэмакратыя ў Літве зробіць усё тое, чаго вымагае край ад кожнага грамадзяніна, ад кожнай жывучай ў ім нацыянальнасьці. Спадзяёмся, што дзеячы польскага грамадзянства стануць у сьцягу працаўнікоў над будоўляй агульнага будынку нашае Бацькаўшчыны і памогуць нам закладаць трывалы фундамэнт вольнае, незалежнае і дэмакратычнае Літвы.

Па ўсім нашым краю арганізаваны органы часовага самаўраду (самаўпраўленьня): парахвіяльныя або валасныя, паветавыя і мястовыя рады. Гэта апора Часовага Ураду і гэта паможа правесьці ў жыцьцё яго мэту.

Найважнейшымі-ж мэтамі Часовага Ураду ёсьць, давесьці край да Устаноўчага Сэйму, каторы ўстановіць форму ўраду ў Літве і правядзе цэлы сьцях соцыяльных рэформаў.

На першым месцы прад намі стаіць зямельная рэформа і абаспэчаньне работнікаў. Часовы Урад будзе йсьці да таго, каб малазямельныя і бяззямельныя былі надзелены зямлёй. Часовы Урад, лічучы што зямля павінна належыць тым, чыймі рукамі яна ўрабляецца, пастараецца каб у найбліжэйшым часе бяззямельным і малазямельным заканадаўчай дарогай былі аддадзены скарбовыя землі, а таксама тыя землі вялікіх зямельных маемасьцей, каторых гаспадары самі ня могуць урабляць.

Справы працы і работнікаў ня будуць пастаўлены ў другім сьцягу гасударсьцьвенных спраў. Мы ставім іх у сьцях тых спраў, каторыя мусяць быць разьвязаны зараз-жа, бо ў нашым краі абарона працы, асабліва-ж працы на ніве, асталася далёка ззаду ад іншых краёў.

Часовы Урад будзе старацца ў як найбліжэйшым часе правесьці законы забаспэчаньня ад хваробы, параненьня і старасьці; таксама абароны працы пры адпаведным кантролі абароны працы, у каторым учасьце возьмуць таксама прадстаўнікі работніцкіх арганізацыяў.

Часовы Урад лічыць сваім абавязкам ужыць усіх магчымых спосабаў, каб даць працу тым, каторыя яе ня маюць. Урад у найбліжэйшым часе правядзе права аб скарачэньні рабочага дня да 8-ёх гадзін. Часовы Урад Літвы мае надзею, што ўсе гэтыя рэформы знойдуць паддзержку з боку клясовых і професыянальных работніцкіх арганізацыяў, а значыцца і з боку работніцкіх Радаў.

Часовы Урад зробіць усё, каб шкоды былі вернены. Ен праз сваіх прадстаўнікоў пакажа ўсе тыя крыўды, якія былі нам зроблены вайной. Часовы Урад будзе глядзець, каб дзяржаўнае дабро Літвы ня было разграблена, каб чыгункавыя (жалезнадарожныя) прылады і машыны ня былі вывезены, але асталіся ў нашым гаспадарстве. Урад выказавае надзею, што грамадзяне краю самі будуць бараніць дзяржаўнае дабро, ня будуць яго купляць і не пазволяць прадаваць і нішчыць гэтае дзяржаўнае багацьце.

Бяромся да працы ў часох завірухі; мусім удзяржаць у нашым краі лад і парадак, арганізаваць адпор процій небаспэчнасьці, каторая грозіць для Літвы звонку. З усходу ў наш край лезуць новыя акупанты маскоўцы; яны вязуць з сабой сваіхураднікаў і гатуюць поезды каб вывазіць збожжа з нашага краю. Нясуць яны нам голад і новыя зялезьзі (кайданы).

Па ўсёй Літве салдаты з значкамі чужымі нашаму краю чакаюць тыкеля часіны, калі будуць магчы стаць процi незалежнасьці Літвы і дэмакратычнага ладу. Усьцяражомся ад анархіі, калі будзем будаваць гасударства на асновах дэмакратычных; дзеля абароны-ж граніц Літвы арганізуем войска.

Уся гэтая праца можа быць споўнена толькі пад варункам злучэньня ўсіх сіл краю. Ніякая небасьпэчнасьць звонку ня будзе нам страшнай, калі край будзе зарганізаваны. Дзеля гэтае мэты мы склікаем у Вільні дня 16 студня (января) 1919 г. агульна краёвую конфэрэнцыю, каторая павінна сказаць сваё слова аб найважнейшых справах. Ад парахвіяльных або валасных радаў вымагаем, каб выбары на конфэрэнцыю былі зроблены дэмакратычным спасабам.

Спадзяёмся, што край дасьць нам ня толькі працаўнікоў для адбудовы гасударства, але таксама і срэдзтваў. Нашая грашавая палітыка можа апірацца найбольш на багацьці краёвым. На заграничныя позычкі мы не павінны вельмі лічыць. Падаткі належыць браць ад вартасьці маемасьці; большыя падаткі трэба налажыць на тых, каторые забагацелі падчас вайны.

Ужывём усе спосабы дзеля адбудовы гаспадаркі Літвы і як найшырэй выкарыстаем тую сілу, каторую выказавае ў усіх галінах краёвае гаспадаркі коопэрацыя.

Часовы Урад скіруе ўсе свае стараньні на паддзержку наших дамаганьняў на Конгрэсе аб міры і будзе вымагаць злучэньня ўсіх частак Літвы з доступам да мора.

Чакаючы паддзержкі і апоры Часовы Урад кліча ўсіх грамадзян Літвы да еднасьці і працы над адбудовай незалежнае, дэмократычнае Літвы.

Прэзэс міністраў *М. Сьлежэвіч.*

Загадчык міністэрствам міжнародных спраў *А. Януляйтіс.*

Міністэр унутраных спраў *І. Вілейшыс.*

Міністэр асьветы *М. Біржышка.*

Віцэ-міністэр унутраных спраў *З. Старкус.*

Міністэр земляробства і гасударсьцьвенае маемасьці *Г. Тубеліс.*

Віцэ міністэр дарог
*І. Шымомюнас.*

Загад. Міністэр. емінных спраў і грамадзкіх работ *І. Пакніс.*

Міністэр гандлю і промыслу
*І. Шымкус.*

Віцэ-міністэр гандлю і промыслу
*Нахман Рахмілевіч.*

Загад міністэр грашавых спраў
*Вольд. Чарноцкі.*

Міністэр краёвае абароны
*М. Велікіс.*

Міністэр бэз портфэлю беларускіх спраў
*Язэп Варонко.*

Міністэр бэз портфэлю жыдоўскіх спраў
*Як. Выгодзкі.*

Міністэр бэз портфэлю
*А. Стульгінскі.*

---

# Прызыў самаахвотнікаў да абароны Літвы.

## Да грамадзян Літвы!

Грамадзяне! Ужо ня раз непрыяцелі Літвы жадалі накласьці на нас ярмо на вечныя часы, але бацькаўшчына нашая непаканана. Жыве яна!

Убачылі мы цяпер усе заранку Волі; незалежнасьц Літвы нясе для ўсіх волю і шчасьце, дык баранема незалежнае нашае гаспадарства Літвы! Падайма сабе ў згодзе рукі як браты, ідзема сьмела да барацьбы, ўсе як адзін чалавек станьма ў абароне Бацькаўшчыны!

## Літва ў небаспэчнасьці!

Пасьля выступленьня нямецкага войска ўварвалася ўжо ў Літву чужое войска маскоўскае. Уваходзіць яно адбіраючы ад нашых людзей еміну, жывёлу і маемасьць. З маскалямі разам ідуць — голад, пажары ды рэкі крыві і сьлёз.

Станьма ў абароне Літвы! Давядзема, што мы варты волі, за каторую бароліся цэлыя вякі сёньня доля Літвы ў нашых руках.

Не адкладайма ні на часінку — кожны хто любіць Літву, хто жадае ей волі, кожны хто можа насіць аружжа, ўступайма ўсе да краёвае абароны Літвы. Ідзема цэлымі сьцягамі з вёсак і засьценкаў, з мест і мястэчак, з усіх ваколіц Літвы пайдзема бараніць волю і Бацькаўшчыну. Першыя сьмела станьма да барацьбы.

Адважна і бяз страху, як бацькі нашы і прадзеды, заступема непрыяцелю дарогу, ваюючы ў абароне нашае Маці-Бацькаўшчыны, у абароне Літоўскага Гаспадарства.

Прэм'ер-Міністэр *Сьлежэвіч.*
Міністэр краёвае абароны *Вэлікіс.*

Часовы Літоўскі Урад прызывае ўсіх грамадзян Літвы, каторыя толькі могуць насіць аружжа, да абароны вольнай і незалежнай Літвы і загадавае зараз жа ўступаць у палкі краёвай абароны.

Інструкцыі і варункі прыняцьця паказаны ніжэй.

Прэм'ер-міністэр *М. Сьлежэвіч.*
Міністэр краёвае абароны *М. Вэлікіс.*

## Варункі уступленьня ў краёвую абарону Літвы.

1. Краёвая абарона Літоўскага Гаспадарства падлягае Ураду Літвы і загадам Міністра краёвае абароны.
2. Уся краёвая абарона арганізавана на прынцыпе ваеннае дысцыпліны.
3. Усе самаахвотнікі прымаюцца ў краёвую абарону ня менш як на 1 год. Час службы можа быць прадоўжаны толькі з вольнай умовы з самаахвотнікамі.
4. У прыпадку зьменшэньня краёвае абароны або дэмобілізацыі самаахвотнікі могуць быць звольнены і раней чымся за адзін год.
5. Самаахвотнікі, каторыя дзеля якіх небудзь прычын ня могуць быць на службе ўвесь год, могуць на іх просьбу звольнены, але толькі з згодай начальніка штабу пры міністэрстве абароны.
6. Кожны самаахвотнік уступаючы ў краёвую абарону, дае забавязаньне на пісьме, што ён будзе бараніць Літоўскае Гаспадарство (Гасударства), будзе захоўваць гасударсьцьвенае права Літвы і спаўняць загады свайго Ураду.
7. Урад Літвы дасьць кожнаму самаахвотніку усё ўтрыманьне і 100 марак пэнсыі ў месяц. Апрача гэтага сям'я самаахвотніка, калі ён яе ўтрымлівае, дастае ў месяц 50 марак.
8. Гасударства запэўняе быт (быцьцё) раненым самаахвотнікам, каторыя нядатны да працы, а так сама сем'ям забітых салдатоў. Права аб гэтым будзе выдана асобна.

Прэм'ер міністэр *М. Сьлежэвіч.*

Міністэр краёвае абароны *М. Вэлыкіс.*

## Інструкціі аб прызыве самаахвотнікаў.

§ 1.

Дзеля ўпарадкаваньня вербаваньня самаахвотнікаў да краёвай абароны, уся Літва падзелена на вокругі. Міністэр краёвай абароны назначае адумысловых ваенных начальнікаў вокругу.

§ 2.

Месцамі быцьця акружных ваенных начальнікаў ёсьць: Паневеж, Шаўлі, Крэтынга, Таўрогі, Кейданы, Коўна, Оліта, Гродна.

У склад вокругу ўвайходзяць: паветы:

I. **Оліцкі вокруг.** Паветы — 1) Оліцкі, 2) Сэйненскі, 3) Сувальскі, 4) паўднёвая часьць Марыямпольскага (быўшы Калівары́йскі).

II. **Ковенскі вокруг** пав.: Кошэдарскі, 2) паўночная часьць павету Марыямпольскага 3) Вілкавішскі, 4) Уладыславоўскі, 5) Шырвінскі, 6) Маляцкі.

III. **Таўрагенскі вокруг.** Пав.: Таўрогі, 2) Скандэрвілі, 3) Росіены, 4) Вежайці.

VI. **Крэтынгоўскі вокруг.** Пав.: Крэтынга, 2) Сяды, 3) Тэльшы.

V. **Шавельскі вокруг.** Пав.: 1) Шавельскі, 2) Куршанскі, 3) Окмянскі і 4) Еганішкельскі.

IV. **Поневескі вокруг.** Пав.: 1) Ракішкі, 2) Купішкі, 3) Поневеж, 4) Біржы, 5) Уцяны, 6) Салдугішкі.

IIV. **Кейданскі вокруг.** Пав.: 1) Вілкамірскі, 2) Ковенскі і 3) Кейданскі.

IIIV. **Віленскі вокруг.** 1) Свянцяны і 2) Вільня.

XI. **Гродзенскі вокруг.** Пав.: 1) Радунскі, 2) Лідзкі, 3) Плянцкі, 4) Дзятлаўскі, 5) Ваўкавыскі, 6) Белавескі, 7) Бельскі, 8) Гродзенскі, 9) Алекшыцкі, 10) Беластоцкі і 11) Сакольскі.

§ 3.

Зараз-жа апрача рэгістрацыі камітэтаў прызываем усіх самаахвотнікаў без рэгістрацыі.

1) **У Коўна** з паветаў: Уладыслаўскага, Вілкавіскага, Марыямпольскага (паўночнае часьці), Кошэдарскага, Шырвінскага, Маляцкага.

2) **У Оліту** з паветаў: Сувальскага, Марыямпольскага, (паўднёвае часьці), Сэйненскага-Оліцкага.

3) **У Гродну** з паветаў: Радунскага, Лідзкага, Плянцкага, Дзятлаўскага, Ваўкавыскага, Белавескага і Бельскага.

4) **У Вільню** з паветаў: Віленскага і Свянцянскага.

§ 4.

Ува ўсіх іншых паветах камітэты або Рады (парахвіяльныя, валасныя ці бэцыркавыя) павінны зараз-жа зарэгістававаць усіх, каторыя хочуць і могуць уступіць у палкі краёвай абароны і потым чакаць загаду вайсковага начальніка вокругу.

§ 5.

Спісаньні валасьныя (або парахвіяльныя) самаахвотнікаў павінны быць зараз-жа прысланы начальнікам павету.

§ 6.

Усе зарэгістраваныя самаахвотнікі слухаюць загадаў начальніка павету.

§ 7.

Самаахвотнікі, прызваныя начальнікамі вокругаў, павінны мець добрыя боты, цёплую вопратку, хатыль (падобны да нямецкага ранца), адну зьмену хусьця і яды на 5 дзён.

§ 8.

Кожны самаахвотнік павінен мець з сабой пашпарт або іншы дакумэнт, каторы яго замяняе.

Прэм'ер міністэр *М. Сьлежевіч.*

Міністэр краёвае абароны *М. Велькіс.*

# Адозва віленскае ваеннае комендантуры.

## Грамадзяне Вільні!

З усёй Літвой, з яе народам злучаны мы неразрыўна, адна зямля корміць нас, разам праз сто з гакам гадоў насілі мы ярмо няволі, змагаліся за волю.

Грамадзяне! Сёньня блыснула для нас зоранка Волі! Нашая Бацькаўшчына Літва становіцца незалежным дэмакратычным гаспадарствам, у каторым усе грамадзяне бяз розьніцы нацыянальнасьці будуць мець роўнасьць і волю. Незалежная Літва нясе нам усім, дагэтуль уціснаным, волю і шчасьлівае быцьцё! Дык падайма сабе братнюю руку, і баранема бацькаўшчыну, бо

## Літва у небаспэчнасьці!

На ўсходнія ўзьмешкі нашага краю ўварвалася ўжо чужое маскоўскае войска. Маскоўцы прыходзяць высcаць з Літвы апошнія сокі, а нам нясуць голад, морды і пажары!

Усе баранема Літву! Давядзема, што мы варты тае волі, за каторую змагаліся цэлыя вякі. Сёньня доля Літвы ў нашых руках.

Грамадзяне Літвы! Не адкладайма ні на часінку. Кожны хто жадае ёй волі, кожны хто можа насіць аружжа, ўступайма ўсе ў краёвую абарону.

Адважна станьма да барацьбы, заступема дарогу непрыяцелю, каторы ўрываецца сілком у наш край і скіроваваецца ў сталіцу нашага краю Вільню. Ня зганьбім свайго аружжа братняй крывёй работнікаў Літвы, баронім толькі нашую Маці-Бацькаўшчыну, баронім незалежнасьць нашага гасударства.

Усе, як адзін чалавек станьма ў сьцягі краёвае абароны і дадзём адпор находнаму непрыяцелю.

Віленцы! Віленская ваенная камандантура прызывае ў самаахвотныя палкі краёвае абароны ўсіх грамадзян бяз розьніцы нацыянальнасьці. Будуць сформованы асобныя аддзелы з камандай у мове беларускай, літоўскай і польскай. Варункі прыняцьця паказаны ў адумысловай адозве. Запісавацца можна што дзень ад гадз. 9 зраньня да 1 п. п. у Віленскай комэндантуры Сьв. Юрскі праспэкт № 36 у быўшым будынку Verwaltunga на супроць Лукіскага пл.

Небаспэчнасьць грозіць волі і краю да аружжа!

**Віленская ваенная комэндантура.**

# Выбары на конфэрэнцыю.

Камісія дзеля склікаеньня конфэрэнцыі прыпамінае ўсім грамадзянам Літвы, што 16 сьнежня 1919 года ў Вільні будзе з усяго краю Конфэрэнцыя. Дзеля гэтага ўсе парахвіяльныя або валасныя камітэты няхай помняць што 6 студня ўсюды трэба зробіць выбары дэпутатаў на гэтую конфэрэнцыю; — з паветавых (крэйзавых) камітэтаў (радаў) трэба выбраць прадстаўнікоў 9 студня, а ў мястох 12 студня. Дык да работы ўсюды!

**Камісія дзеля склікаеньня Конфэрэнцыі.**